Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 44 Чацьвер, 13-га Лістапада 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.

## Патрэбнасьць зьменаў.

Сталічная варшаўская прэса амаль ня кожны дзень перадае аб нейкіх глухіх гутарках у палітычных кругох на тэму рэконструкцыі ўраду.

Як відаць, рэконструкцыя гэта моцна насьпела і гэта найлепей пацьвярджаецца словамі быўшага павадыра польскае народнае партыі „Вызваленьне“ пасла Тугута ў гутарцы яго з прадстаўніком аднае з варшаўскіх газэт. З гутаркі гэтае відаць, што чым скарэй адбудуцца патрэбныя зьмены ў складзе ўраду, тым лепш.

А пасол Тугут вельмі блізка стаяў да ўрадовых польскіх кругоў і напэўна надта добра ведае, якія там пануюць настроі.

Цяперашні кабінэт п. Грабскага зьяўляецца блізка што выняткова толькі ўрадам фінансавага аздараўленьня Польшчы.

Аднак і ў гэтай важнай сваёй задачы ўрад не дасягнуў усіх пастаўленых мэтаў, бо ацьвярдзеўшая на загранічнай біржы польская монэтная адзінка, ня мае тое, якая патрэбна, устойчывасьці на ўнутраным рынку. Дарагоўля, хоць і туга, але ўпарта падвышаецца, аб чым крычыць лявіцовая польская прэса, трэбуючы нейкага гэтак сама няяснага выхаду з палажэньня ў гэтай галіне дзяржаўнага жыцьця.

Падатковы цяжар адчуваецца страшэнна моцна вясковым земляробскім насяленьнем, прадукцыя працы якога ацэньваецца ніжэй за фабрыкаты прамысловасьці

Зямельны голад сялянства асабліва ў нашым краі нічым не задаволены, аб чым загаварылі на шпальтах „Robotnika Wileńskiego“ тутэйшыя польскія соцыялістыя. Яны пабачылі цяпер ясна, чаго варта асадніцтва на нашых *Крэсах*, праводжанае з Варшавы галасамі таксама й іхніх варшаўскіх таварышоў. Субсыд'яваньне асадніцтва каштавала ў нас вялікіх грошай, а мэты гэтага асадніцтва былі ня столькі эканамічнага, як палітычнага характару. Гэтае чыста нацыяналістычнае польскае прадпрыемства ў нашым краі дарэмна паставіла сабе недасягальную мэту спольшчаньня тутэйшага беларускага насяленьня.

Па лініі полёнізацыі ішла й дасюль яшчэ не пераламалася прасьветная польская палітыка ў нашым краі, ад чаго вытварылася пуставаньне вясковых польскіх пачатковых школаў тутака і змаганьне беларускага насяленьня за сваю родную школу.

Языковыя законы, якія мелі быць першым крокам на шляху ўрэгуляваньня справы нацыянальных меншасьцяў, законы, якія ўвайшлі ў сілу яшчэ з 1-га мінулага кастрычніка, фактычна яшчэ ў жыцьці не адчуваюцца, а міністэрская інструкцыя аб правядзеньні гэтых законаў, у свой час, востра скрытыкована ў варшаўскім „Robotniku“ і скрытыкована не бяз аснаваньня.

Пры тугой здольнасьці Сойму да творчае працы, цэнтр вагі дзяржаўнага будаўніцтва і рэгуляцыі няпростага мэханізму агулам узятае дзяржаўнае ўлады перайшоў неяк на ўрад, адкуль паходзіць і найбольшая законадаўчая ініцыятыва. Проекты-ж языковых законаў апрацоўваліся не парлямэнцкаю, а ўрадоваю камісіяй.

А ўрад па свайму пэрсональнаму складу мае амаль што саўсім аднародную палітычную афарбоўку і як з правага, так і з левага боку Сойму падтрымліваецца толькі таму, што соймавыя групіроўкі ня могуць згаварыцца па пытаньню аб утварэньні ўраду парлямэнцкага.

Унутраная палітыка кабінэту п. Грабскага, як і быўшых перад ім урадаў, ніяк ня можа сайсьці з свайго нацыяналістычнага шляху, каб рашуча стаць на грунт абварункованага Конституцыяй дэмакратызму.

Бандытызм, прыбраўшы палітычны адценак на *Крэсах*, дасюль ня сьціхае і вострыя меры барацьбы з ім каштуюць нямала грошай. Замест лячэньня гэтае агіднае балячкі шляхам рашучых рэформаў, урад думае справіцца з грозным зьявішчам ува унутраным жыцьці пры помачы над'звычайных адміністрацыйна-паліцэйскіх і навет ваенных мераў.

Польская дэмакратыя, безадказна крытыкуючы сучасны стан рэчаў, сама стаіць далёка ад фактычнага кіраваньня дзяржаўнымі справамі і з боку яе партыйных інтарэсаў гэта для яе можа й ня блага.

Жыцьцё рана ці позна павінна прывясьці польскую дэмакратыю да практычнага ўдзелу ў дзяржаўным кіраўніцтве і тады напэўна можна будзе спадзявацца магчымасьці паважных зьменаў у кірунку польскае палітыкі, якая мусіць пайсьці па сапраўды дэмакратычнай лініі.

І калі рэконструкцыя цяперашняга польскага ўраду адбудзецца на карысьць дэмакратызму, дык яна напэўна сама сябе апраўдае.

А простая пэрсональная зьмена на міністэрскіх пастох асобаў аднае й тае самае нацыяналістычнае афарбоўкі нічога па сутнасьці ня зьменіць.

Палажэньне вымагае пэўных зьменаў, але яны мусяць мець нейкі глыбокі сэнс, і калі гэта насьпявае, дык марудзіць няма чаго.

## Палітычны агляд.

Пасьля колькі тыдняў кабінэцкага крызысу ў Юга-Славіі ўтварыўся зноў кабінэт Пашыча. Але амаль што ня ўсе думаюць, што назначэньне Пашыча прэм'ерам ня толькі ня спыніць палітычнага крызысу ў Юга-Славіі, але будзе пачаткам новых унутраных неспакойстваў. З усіх утварыўшыхся пасьля сусьветнай вайны дзяржаваў найбольшым адзначаецца унутраным бязладзьдзем Юга-Славія, якая перажывае бязупынны палітычны крызыс. Каб ляпей прадставіць сабе ўнутранае палітычнае палажэньне Юга-Славіі, трэба пазнаёміцца з палітычнымі партыямі і іхнімі праграмамі.

Паводле нацыянальнага складу Юга-Славія пры сваёй невялічкай тэрыторыі надта рознародная дзяржава і вельмі напамінае ў мініятюры ранейшую Аўстра-Вэнгрыю з тэй толькі розьніцай, што нацыянальнае пытаньне ў Юга-Славіі шмат гарэй вырашана, чымся ў Аўстра-Вэнгрыі. У гэтым вось і ёсьць галоўная прычына ўнутранага антагонізму і загостраньня адносін між рознымі партыямі, якія прадстаўляюць сабой розныя нацыянальнасьці. У склад Юга-Славіі ўваходзяць Сэрбы, Харваты, Славенцы, Басьнякі, Гэрцэгавінцы, Дальматы, Чорнагорцы і Македонцы. Найвялікшыя групы састаўляюць Сэрбы, Харваты і Славенцы, ад імя якіх і сэрбскае каралеўства завецца С.—Х.—С.

Перш за ўсё трэба ад'значыць, што ўсе гэтыя часткі, якія ўваходзяць ў склад Юга-Славіі, ніколі не складалі аднэй дзяржавы. Заселены яны з нацыянальнага боку і з боку мовы аднародна, але ніколі не складалі аднароднага дзяржаўнага арганізму з боку палітычнага. Прыналежнасьць да розных дзяржаўных арганізмаў у працягу шмат вякоў—да Аўстрыі, Вэнгрыі, Турцыі і Вэнэцыі — палажыла сваю пячатку на палітычнае і эканамічнае жыцьцё паасобных складовых частказ цяперашняе Юга-Славіі.

Сэрбія раней за ўсіх вызвалілася з-пад улады чужых дужэйшых народаў. Дзеля гэтага, сэрбскія радыкалы, на чале якіх стаіць цяперашні і быўшы ўжо няраз раней прэм'ер Пашыч, лічаць сябе правамочнымі накінуць сваю ўладу іншым нацыянальнасьцям, ня лічачыся зусім з іхнімі культурнымі, рэлігійнымі, палітычнымі і эканамічнымі азнакамі. Сэрбская радыкальная партыя, праўда што найдужэйшая, прадстаўляе сабой сэрбскі цэнтралізм, які ідзе з Белграду, сталіцы Сэрбіі. І ня гледзячы на тое, што сэрбскія радыкалы маюць абсолютную большасьць у агульным парлямэнце (скупшчыне), патрапілі здабыць сабе галоўную пазыцыю, дзякуюны раскінутасьці опозыцыі. Стары Пашыч лоўка лявіруе між партыямі скупшчыны, разумна выкарыстоўваючы іх узаемныя нязгоды, назначаючы на адказныя адміністрацыйныя пасты сваіх людзей, на якіх мае сільны ўплыў, і дзякуючы гэткай тактыцы мог утрымацца пры ўладзе колькі гадоў, зрабіўшы маленькую перадышку ў часы кабінэту Давідовіча.

А Харваты, якія карысталіся шырокай аўтаноміяй пад уладай Вэнгрыі, ня хочуць падлягаць гэтаму цэнтралізму Сэрбаў. Харваты маюць $2\frac{1}{2}$ мільёны душ насяленьня і з палітычнага, а таксама і рэлігійнага боку складаюць аднародную масу. У скупшчыне яны твораць адну харвацкую групу ў ліку 69 дэпутатаў, на чале якой дагэтуль стаіць шырока ведамы Радзіч. Імкненьне Харватаў да незалежнасьці асабліва ўзрасло ў апошні час. У апошні год вайны на востраве Корфу быў падпісаны дагавор між Харватамі і Сэрбамі, які стаўся падставай будучай Юга-Славіі. Харвацкія палітыкі ўяўлялі сабе Юга-Славію, як фэдэрацыю паўднёва-славянскіх народаў, апіраўшуюся на прынцып роўнапраўя, рэспублікацства і дэмакратызму. Але аднак, пасьля заснаваньня С.—Х.—С. дзяржавы, выявіліся цэнтралістычныя імкненьні Сэрбаў і замест фэдэрацыйнай рэспублікі ўтварылася каралеўства, ўрад каторага імкнецца зрабіць з Юга-Славіі пашыраную Сэрбію. На гэтым грунце і расьце нязгода між Харватамі ды Сэрбамі. Харвацкая партыя ў скупшчыне афарбована яркім колерам рэспубліканскіх і аўтанамічных

імкненьняў. Славенцы, Басьнякі, Гэрцэгавінцы, Дальматы і Чорнагорцы ня маюць гэткіх сільных аўтанамічных імкненьняў, як Харваты. Толькі Македонцы на поўдні робяць Сэрбіі шмат клопату, дзеля таго, што імкнуцца да злучэньня ўсіх сваіх часткаў, апынуўшыхся пасьля вайны, пад Баўгарыяй, Грэцыяй і Юга-Славіяй.

Не складаюць аднароднай масы пасобныя часткі Юга-Славіі і з рэлігійнага боку. Харваты і Славенцы ў большасьці каталікі, Сэрбы і Чорнагорцы — праваслаўныя, а Басьнякі і часткова Македонцы — магамэтане.

З боку палітычнага Юга-Славія дзеліцца на гэткія партыі, як гэта відаць з груніровак пры ўрадзе Давідовіча. Кабінэт Давідовіча, нядаўна прымушаны пад націскам караля пайсьці ў адстаўку, меў на мэце памірыць Харватаў з Сэрбамі. Ен апіраўся на партыю дэмакратаў (33 — партыя Давідовіча), славенскіх каталікоў (24), босьнійскіх мусульманаў (18), македонцаў (13), земляробаў (11) і колькі дробных групаў. Ацрача таго Харваты (69) абяцалі падтрымоўваць Давідовіча. Гэткім чымам, Давідовіч карыстаўся большасьцю 175 галасоў, тады, як опозыцыя мела 124 галасы — радыкальная партыя Пашыча 110 галасоў і група Прыбічэвіча, якая адарвалася ад дэмакратаў Давідовіча, пасьля таго; як апошні пачаў перагаворы з Харватамі, — 14 галасоў.

Пасьля таго, як Пашыч не патрапіў прымірыць Харватаў з Сэрбамі у працягу 5-ёх гадоў свайго ўрадаваньня, ён летась пайшоў у адстаўку, уступіўшы месца Давідовічу. Давідовіч ад самага пачатку пачаў шчыра імкнуцца да згоды з Харватамі. Ен ўсё зрабіў дзеля таго, каб прырыхтаваць грунт для ўваходу харватаў і іхняга павадыра Радзіча ў склад ураду. Але няма ў тым яго віны, што гэтак ня здарылася. У гэтым вінаваты толькі Радзіч, каторы ня йдзе на ніякія ўступкі. Прымушаны ўцякаць за межы Сэрбіі пры ўрадзе Пашыча летась, Радзіч быў у Парыжы, Лёндане, а пасьля ў Маскве, падгатаўляючы грунт дзеля апавешчаньня незалежнасьці Харватыі. У Парыжы і Лёндане ён нэ адтрымаў ніякіх гарантыяў. За тое ў Маскве за яго ўхапіліся, як за прыладу дзеля сваіх мэтаў. Распаўсюджылася навет чутка, што ён зрабіў з бальшавікамі тайны дагавор. Адтрымаўшы пры Давідовічу дазвол на ўезд у Юга-Славію, ён далей вёў сваю палітыку ў ранейшым духу, пакуль, сказаўшы колькі прамоваў выразна антыдзяржаўнага зьместу, не павінен быў ізноў уцякаць за граніцу.

Пашыч, паглядаючы з боку на перагаворы Давідовіча з Радзічам і бачыўшы ўсю іхнюю безрэзультатнасьць, урэшце нагаварыў караля зрабіць з гэтым канец. І Давідовіч пад націскам караля павінен быў пайсьці ў адстаўку, а на яго месца пасьля колькі тыдняў перагавораў з рознымі партыямі, ізноў назначаны Пашыч. Новае назначэнне Пашыча азначае новую фазу ў сэрбскай цэнтралістычнай палітыцы. Першая, самая трудная задача будзе гэтакая, каб згуртаваць навокал сябе сэрбскія элемэнты, г. зн. перацягнуць на свой бок дэмакратаў Давідовіча. А тады ён аб'явіць адкрытую вайну Харватам. Але, як ўжо відаць з іншых праяваў, гэткая рашучая палітыка не давядзе да спакою ў краі і юга-слаўскі палітычны крызыс пагражае перайсьці ў бесканечнасьць, паважна пагражаючы міру на Балканах.

*N.*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

## У Польшчы.

8 гэт. лістапада ў міністэрстве ўнутраных справаў адбылася нарада міністра Гюбнэра з прыехаўшымі ў Варшаву крэсовымі ваяводамі. Увечары міністар Гюбнэр разам з ваяводамі быў прыняты прэм'ерам Грабскім, якому быў зроблены даклад аб палажэньні на крэсах. У зьвязку з адбытай нарадаю, трэба чакаць абпублікаваньня ў бліжэйшыя дні раду новых распараджэньняў ураду.

У мінулую суботу савецкі пасол Войкаў аддаў Прэзыдэнту Польскае Рэспублікі свае вярыцельныя граматы. Прэзыдэнт Рэспублікі прыняў савецкага пасла са звычайным цэрэмоніялам.

Як думаюць у палітычных кругох, пры рэконструкцыі ўраду адбудуцца зьмены ў міністэрствах унутраных справаў, справядлівасьці і аховы працы.

Соймавы Клюб украінскіх соцыяль-дэмакратаў аб'яднаўся з камуністымі Ланцуцкім і Крулікоўскім, творачы „пасольскую камуністычную фракцыю".

Як піша „Kurjer Polski", ў сувязі з новэляю, якую рыхтуе міністэрства ўнутраных справаў, да закону аа грамадзянстве (obywatelstwie), будзе зьмена прадпісаньняў датычна выдаваньня пашпартоў, каб насяленьне лягчэй магло набыць польскія „dowody osobiste".

На паседжаньні Сойму галасавалася прапазыцыя прэзэса Беларускага Пасольскага Клюбу пасла Рагулі і украінца Васынчука аб недаверыі да ўраду. Прапазыцыя адкінена большасьцю 237 проці 52 галасоў.

З Варшавы паведамляюць, што ўрадовыя кругі прышлі да перакана्ньня аб патрэбе дэцэнтралізацыі распараджэньняў на крэсах, якое вымагае мясцовая адміністрацыя.

У пасольскім клюбе „Wyzwolenie" адбыўся раскол. Група паслоў: Брон, Шапель і Галавач (беларус) на чале з паслом С. Ваяводзкім выйшла з клюбу „Wyzwolenie" і злучылася з Баліным і Шакуном, якія раней пакінулі „Wyzwolenie". Цікава, што пры галасаваньні ў Сойме, група пасла Ваяводзкага галасавала разам з нацыянальнымі меншасьцямі.

## За граніцай.

У **Аўстрыі** абвешчана агульная забастоўка чугунак. Канцлер Сэйпэль пастанавіў падацца ў адстаўку. Забастоўка выклікана адмовою ўраду павялічыць заработную плату чугуншчыкам.

З **Эстоніі** паведамляюць, што ўночы з аўторку на сераду на мінулым тыдні нейкія Функ і Вінтэр па загаду камуністых прабавалі прабіць вонкавую сьцяну вастрогу, каб даць магчымасьць арыштованым уцячы. Праступнікі затрыманы падчас работы і арыштованы. Ваенны суд, разглядзеўшы гэтую справу, засудзіў абодвух на кару сьмерці. Прыгавар суда споўнены.

Як тэлеграфуюць з **Лёндану** у порт Хайфа прыбыла сільная ангельская эскадра, мусі, ў зьвязку з пагрозаю вагабітаў напасьць на **Палястыну**.

У **Югаславіі** Пашыч аканчальна злажыў новы кабінэт, у якім міністрам заграні чных справаў зьяўляецца Нінчыч, а ўнутраных — Максімовіч. Павадыр **харвацкіх** рэспубліканцаў Радзіч уцёк заграніцу. Парлямэнт распушчаны.

З аўторытэтных крыніц паведамляюць, што прэзыдэнт **Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў** Кулідж пастанавіў ні ў якім выпадку не мяняць пазыцыі Амэрыкі ў адносінах з С.С.Р.Р., бяз сур'ёзных гарантыяў для амэрыканскіх інтарэсаў.

З **Бэрліну** паведамляюць, што камуністычныя дэпутаты, датычна якіх быў аддадзены загад аб арышце, хаваюцца у савецкім гандлёвым прадстаўніцтве.

Паводлуг вестак з **Літвы**, міністар заграні чных справаў Чарнэцкіс выслаў ноту да француcкага прэм'ера Эрыё ў адказ на прапазыцыю Антанты аб навязаньні з Польшчаю нармальных дыплёматычных і гандлёвых зносін. У ноце, паміж іншым, успамінаецца аб пратэнсіі Літвы на **Віленшчыну**.

У **Грэцыі** адбылася рэконструкцыя ўраду. Міністрам камунікацыі назначаны Валяда, а марскім міністрам адмірал Мяуліс.

Як тэлеграфуюць з **Рыгі**, **Францыя** выслала свайго прадстаўніка ў Петраград дзеля прыняцьця будынку даўнейшага францускага пасольства.

У **Англіі** на лёнданскім Трафальгар-сквэры фашысты арганізавалі маніфэстацыю, падчас якое сказаны быў рад прамоваў антыбальшавіцкага характару.

З прычыны разрыву палітычных зносін **Францыі** з **Ватыканам**, лічыцца няўхільным выезд з Парыжу папскага нунцыя Цэрэтті.

У **Гішпаніі** паўстала провінцыя **Каталёнія**. Дырэкторыя стараецца прадставіць гэты рух, як выступленьне спэцыяльна проці дыктатара Прыма-дэ-Рывэры. У г. Барцэлёне абвешчана асаднае палажэньне.

# Тутэйшыя пэ-пэ-эсы аб зямельнай рэформе.

Новая газэта „Robotnik Wileński" ў № 6 зьмяшчае вельмі цікаўны артыкул аб зямельнай рэформе ў нашай старонцы, які ахарактэрызоўвае ўжо самае motto, ўзятае з верша Мацея Бурачка:

...Кінь наўкола вокам,
Дык крывавым сокам
Не сьлязой заплачаш,
Як ўсё абачыш...

Дзеля вагі гэтай справы, асабліва ў нашым краі, мы важнейшую частку гэтага артыкулу перадаем у перакладзе да ведама нашых чытачоў.

— Калі цяпер гаворыцца аб зямельнай справе, дык гэта разглядаецца як агульна-дзяржаўнае пытаньне, пытаньне надта зложанае, залежнае ад шмат чаго, а фармальна залежнае ад курсу палітыкі Сойму і партыяў. Дзеля гэтага, мы губляем бесстаронны і просты пагляд аб нашых тутэйшых зямельных адносінах, усьцяж пазіраючы на нейкія збаўчыя пахевы новага курсу з Варшавы. А аднак жыцьцё ідзе наперад, а час сыстэматычна вытварае новыя і новыя абставіны і ўкладвае іх незалежна ад нас. І, як кажа старая прыказка: «пакуль сонца ўзойдзе, раса вочы выесьць», гэтак і ў нас—пакуль польская зямельная палітыка здабудзецца на рэальную аграрную концэпцыю, дык гэтая «раса» цяперашніх адносін, як сказана ў прыказцы, выесьць нам вочы. Наша дэмакратычная думка не павінна забывацца аб тым, што наш край, гэта край галоўным чынам земляробаў і ад таго, як уложацца зямельныя справы, залежыць быт нашага краю ў недалёкай будучыні. Наша дэмакратычная думка павінна зьвярнуць увагу—пакуль яшчэ час!—на нашыя зямельныя адносіны і не палохацца творчай адказнасьці.

Калі прыйшла да нас новая Польшча, дык прыйшла яна з клічам «добрай навіны», з клічам аб зямельнай рэформе. Ужо ў дзевятнаццатым, а навет у восемнаццатым годзе пачаліся гутаркі аб нейкай выразна неазначанай зямельнай рэформе. І хаця наш селянін па сваёй натуры недаверчывы, але аднак гэтыя запаведзі так усюды сыстэматычна паўтараліся, што ў канцы канцоў вёска паверыла. Ня ведалі, як гэта будзе. Старыя людзі гутарылі між сабой аб новай «люстрацыі», аб якой легенда дагэтуль жыве на вёсцы; іншыя стараліся ваабразіць гэта больш намацальна... Быў час, калі кліч аб зямельнай рэформе быў курсам дзяржаўнай палітыкі, быў час, калі вера ў гэта пранікла ў вясковае насяленьне. «Зямельна рэформа!» — быў агульны на вёсцы кліч. Малазямельныя і безьзямельныя адтрымаюць зямлю! Адным словам усё прадбачылася вельмі хараша і праўдападобна. Народ цешыўся!

Але час плыў сыстэматычна. Вялікія земляўласьнікі, якіх у час вайны і бальшавіцкай улады ня было, пачалі вяртацца. Пачаліся працэсы. Арандатараў суды пачалі выкідаць; запашнікаў таксама.

Урэшце прыйшоў першы удар абухом: — вайсковае асадніцтва. Войска пачало займаць дворныя абшары, вось гэтыя самыя абшары, якія меліся пайсьці на зямельную рэформу. Ну і ўрэшце прыйшло зацьверджаньне зямельнай рэформы ў постаці соймавага закону з ліпня 1920 г., гэтага соймавага выкрутаса, радзіўшагася ад компромісу польскай дэмакратыі з рэакцыяй.

Прыйшло ацьверазеньне, але коштам недаверыя да польскага дзяржаўнага будаўніцтва. Ужо сёньня тутэйшы селянін ня верыць у польскую зямельную рэформу. З усяго гэтага засталася толькі адна агульная трывалая сьвядомасьць, што сялян ашукалі.

Аднак час робіць сваё дзела і прыходзяць жыцьцёвыя перамены. Гэтак назыв. зямельная рэформа, а ўспамінаючы аб ёй мы павінны заўсёды дадаваць цяпер словы «гэтак названая» — робіцца пакрывалам, пад якім цяпер дзеецца энэргічная ператасоўка зямельных адносін.

Хто мае ўплыў на напрамак аграрнай палітыкі ў нашым краі, трудна сказаць. Якні-як ясна ўжо, шта на яе ня маюць ніякага ўплыву тыя, хто, ішоўшы на агульныя выбары пад штандарам зямельнай рэформы, адтры-

